# Наша Свабода

№77 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

24 ЛІСТАПАДА 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





стар.7

**Развітанне з аптымізмам**

Вельмі важны эканамічны паказчык «індэкс аптымізму» на Беларусі стабільна падае

## Сусветны дзень прафілактыкі СНІД

**Аляксей АРЭШКА**

Сёлета Сусветны дзень прафілактыкі СНІД, які адзначаецца 1 снежня, праходзіць пад дэвізам «СНІД: многае залежыць ад мужчын». Варта зазначыць, што ў Беларусі 72 працэнты ВІЧ-інфіцыраваных складаюць менавіта мужчыны ва ўзросце да 29 гадоў. На працягу бліжэйшых двух тыдняў ва установах культуры і адукацыі Мінска і іншых гарадоў рэспублікі будуць арганізаваны дыскатэкі, вечарыны адпачынку, маладзёжныя акцыі, прымеркаваныя да гэтага дня.

Найбольш маштабная акцыя пройдзе 1 снежня ў Мінскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце.

Галоўная ўвага да прафілактыкі ВІЧ-інфекцыі ў маладзёжным асяроддзі не выпадковая: 85,5 працэнтаў выпадкаў заражэння «чумой XX стагоддзя» ў рэспубліцы прыпадае на маладых людзей ва ўзросце ад 15 да 29 гадоў. Паводле афіцыйных звестак, на 1 лістапада ў Беларусі было зарэгістравана 3.188 ВІЧ-інфіцыраваных. Усяго ж, пачынаючы з 1987 года, з ліку ВІЧ-інфіцыраваных у рэспубліцы памерлі 108 чалавек, з іх 23 — з дыягназам СНІД. Зарэгістравана 136 выпадкаў нараджэння дзяцей ад ВІЧ-інфіцыраваных маці. ■



Фота Ул.Шпалака

● 23 лістапада на рэчавых рынках 18 буйнейшых гарадоў Беларусі прайшоў аднадзённы папераджальны страйк прыватных прадпрымальнікаў. Так выглядаў рэчавы рынак у Мінску. **Працяг тэмы на стар.6**

# Расійская правакацыя

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Сенсацыя на беларускую тэматыку, пададзеная адразу некалькімі расійскімі СМІ, аказалася «аднадзёнкай». Расія пачынае небяспечную гульню на інфармацыйным полі Беларусі. Мэты гэтай гульні пакуль не зусім зразумелыя.**

21 лістапада ўплывовая расійская газета «Коммерсантъ» надрукавала інфармацыю ўласнага карэспандэнта ў Лондане Уладзіміра Кара-Мурзы-малодшага пад назвай «Аляксандр Лукашэнка сыдзе дэмакратычным шляхам. NATO гатовае фінансаваць беларускую апазіцыю». У ёй сцвярджалася, што падчас выступу 16 лістапада перад сябрамі Кембрыджскага саюза ў Вялікабрытаніі намеснік генеральнага сакратара NATO па пытаннях прэсы і інфармацыі Джэмі Шы нібыта заявіў пра неабходнасць фінансавай падтрымкі краінамі-чальцамі NATO беларускай апазіцыі падчас маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбараў.

Паводле карэспандэнта «Коммерсанта», Джэмі Шы распавёў пра фінансаванне NATO сербскай апазіцыі, дзякуючы чаму Ваіслаў Каштуніца перамог Слабадана Мілошавіча, а потым заявіў: «Я мяркую, што наступнай краінай у Еўропе, дзе NATO мусіць прымяніць падобную тактыку, будзе Беларусь. Мы мусім аказаць фінансавую падтрымку на выбарах дэмакратычнай апазіцыі рэжыму Лукашэнкі» (цытата па газеце «Коммерсантъ»).

Гэтая інфармацыя атрымала эфект выбухнуўшай бомбы. Адразу заварушыліся дыпламатычныя колы, і пад вечар 21 лістапада беларускае прадстаўніцтва пры NATO атрымала ліст ад самога «героя дня». Джэмі Шы цалкам абверг інфармацыю, змешчаную ў «Коммерсанте». «Артыкул, які з'явіўся сёння ў «Коммерсантъ-Daily» і які цытуе мае заўвагі пра Беларусь, з'яўляецца поўнай фабрыкацыяй. Гэтая гісторыя была прыдуманая. Ні ў адной з маіх прамоваў або публічных заяваў, уключаючы мой выступ у студэнцкіх дэбатах у Кембрыджскім саюзе ў мінулы чацвер, я не рабіў ніякіх спасылак на Беларусь і не казаў пра якуюсьці ролю NATO, звязаную з умяшальніцтвам ва ўнутраную палітыку іншых краінаў». ▶

*Заканчэнне на стар.3*

# «Дзецьмі клянуся – гэта хлусня!»

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Так прарэагаваў Аляксандр Лукашэнка на публікацыю ананімнага ліста чалавека, які прадставіўся афіцэрам КДБ.**

У лісце сцвярджалася, што апаратар ОРТ Дзмітрый Завадскі быў выкрадзены, забіты рыдлёўкай і пахаваны ў лясной зоне непадалёк ад Мінска. Аўтар ліста паведамляў, што па гэтай справе ўжо арыштавана 9 чалавек, з якіх 5 – дзеючыя супрацоўнікі Службы бяспекі прэзідэнта і яшчэ 2 – былыя супрацоўнікі гэтай жа службы. 2 чалавекі з арыштаваных, паводле ананіма, паходзяць з Чачні.

Адказваючы 21 лістапада на просьбу журналістаў пракаментаваць ананімны ліст, Аляксандр Лукашэнка заявіў наступнае:



«Вы ведаеце, што датычыць Завадскага, я не скажу болей за тое, што ўжо даўно казаў. Злачынства гэта, не злачынства – але мы яго знойдзем. І мы да гэтага падышлі. Але камусьці не падабаецца сёння гэты ход. Таму прадпрымаюцца накірункі, спробы шантажаваць уладу.

Гэта таксама не атрымаецца. Калі камусьці ёсць што сказаць – трэба гэта казаць, не ананімна. Не ад імя спецслужбаў і гэтак далей, а выходзіць і казаць. Вось. Таму калі вы знаёмыя з гэтымі опусамі, я вам клянуся дзецьмі, што гэта хлусня. Гэта спроба шантажу і іншага, што ў такім выпадку бывае. Ну, гэта вядома, калі скіданне інфармацыі недзе з-за мяжы або адсюль, ананімна. А потым гэта раскручваюць, раскатваюць. Ну я вось так глядзеў – асабліва тут ніхто на гэтую вудачку не клюнуў, таму што гэта хлусня. Гэта хлусня.

Ну, сітуацыя не дайшла да таго, каб я некаторыя рэчы дастаў і публічна журналістам паказаў. Але калі дойдзе – я пакажу. І нават тым, хто, можа быць, стаяць за спіной у тых, хто шантажуе ўладу сёння і хто спрабуе на гэтай бядзе сыграць. Гэта вельмі непрыстойна і непрыгожа перад роднымі... Дзімы.

Тое, што там напісанае, асобныя рэчы ўзятыя з следчых матэрыялаў. А на стадыі следства ніводны следчы не можа дапусціць – я не кажу там, што ён гэтае скіданне робіць – ён абавязаны не дапусціць распаўсюджвання інфармацыі, якая не правераная. Прабачце мяне, кроў, рыдлёвачкі і іншае – гэта ж яшчэ не даказанае. Як жа сёння з такім намёкам падобныя рэчы заяўляць? І таму гэта крайне няздобра, і я таму так і адказваю на гэтае пытанне, таму што ў яго ж ёсць сваякі, блізкія, і сёння вось такія... ▶

*Заканчэнне на стар.2*

## НАВІНЫ

■ **Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў сваім рашэннем прыпыніла ўдзел Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» ў паседжаннях КРДС у сувязі з дэструктыўнай дзейнасцю старшыні БСДП Міколы Статкевіча, якая не адпавядае мэтам і зместу КРДС.** Намеснік старшыні БДСП Аляксей Кароль працягвае сваю працу ў КРДС у якасці запрошанага госця.

■ **Завяршаецца акцыя настаўнікаў і выхавацеляў па зборы подпісаў з патрабаваннямі павышэння заробкаў.** У панядзелак беларускія педагогі перададуць сабраныя подпісы ў адміністрацыю прэзідэнта і ўрад. Плануецца, што гэта будзе пад 100 тысячаў подпісаў. Нагадаем, што настаўнікі, у прыватнасці, вымагаюць выканання Закона аб адукацыі, дзе прадугледжваецца, што сярэдняя зарплата павінна быць, як у прамысловасці. Яны кажуць, што гатовыя зняць з сябе ўсе маральныя абавязальніцтвы, то бок, страйкаваць.

■ **Павялічыліся кошты праезду чыгункай. Адна зона руху электрычак падаражэла ўдвая: з 20 да 40 рублёў.** На 50% болей давядзецца плаціць цяпер за паездкі на цягніках міжгародых маршрутаў. Кіраўніцтва беларускай чыгункі спадзяецца, што такое змяненне тарыфаў дазволіць зрабіць чыгунку менш стратнай. Напрыклад, за 6 месяцаў гэтага года страты па перавозцы пасажыраў склалі тут блізу 38 мільярдаў рублёў.

**80-ыя ўгодкі Слуцкага збройнага чыну**

**26 лістапада** ў 10.50 на гарадскім стадыёне ў Слуцку пройдзе мітынг памяці. Дабрацца туды з Мінска, Салігорска і іншых гарадоў можна спецыяльнымі аўтобусамі. Абдудзецца ўскладанне кветак да крыжа ў вёсцы Вызне, а таксама наведванне Семежава, Грозава і Цімкавічаў.

**27 лістапада** ў 19.00 у сядзібе БНФ па Варвашэні,8 адкрыецца мастацка-дакументальная выстава «Чын на волю», дзе будуць выстаўленыя архіўныя дакументы, партрэты вайскоўцаў, гістарычная рэканструкцыя баявога сцяга 1-га палка 1 Слуцкай брыгады стральцоў войскаў БНР, а таксама мастацкія працы А.Пушкіна. Пройдзе канцэрт барда А.Мельнікава.

**1 снежня** ў кінатэатры «Змена» пакажуць дакументальны фільм «Рэха Слуцкага збройнага чыну».

## НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1170**

# «Дзецьмі клянуся – гэта хлусня!»

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.1*

Але... але... майце на ўвазе, што я ніколі не запрашаў для справаздачы трох, як там гаворыцца, (маюцца на ўвазе старшыня КДБ Уладзімір Мацкевіч, генеральны пракурор Алег Бажэлка і міністр унутраных справаў Уладзімір Навумаў. – **Р.П.**)– ніколі – я пісьмова ад іх запатрабаваў справаздачу, і я ўбачыў цыганіну, таму я выдаў распараджэнне – я нікому не загадваў, я проста пісьмова падпісаў распараджэнне актывізацыі расследавання, па-мойму, пяці або шасці буйнейшых злачынстваў, дзе забітых па пяць чалавек было, дзейнічала цэлая група, як сёння следства гаворыць, таму я актывізаваў гэта... гэтыя расследаванні. Пад адказнасць таго, каго прыслалі да мяне, – Навумава, новага міністра, — я яму аддаў усе лейцы кіравання, прызначыў яго каардынатарам гэтай групы. Я ж ні ў каго не забіраў крымінальныя справы, я не маю права на гэта. Я падпісаў распараджэнне аб канцэнтрацыі сілаў і сродкаў і каардынатарам прызначыў Навумава.

Не раскрые злачынства – пракуроры, якія вядуць следчыя там... следства ж пракуроры вядуць, КДБ, МУС – на ўсю катушку атрымаюць.

Таму гэтыя восьзамашкі – я ведаю адкуль. Ногі растуць з Чачні і вялікіх жаданняў атрымаць вялікіх грошай».

Такім чынам, можна казаць, што Аляксандр Лукашэнка ўскосна пацвярджае версію, выказаную ў ананімным лісце.

Пасля абагульнення «хлусня» А.Лукашэнка не каменціруе, што **менавіта** «хлусня». А гэта было б варта зрабіць – бо, па яго ных жа словах, факты ўзятыя з следчых матэрыялаў.

Раптоўны пераход ад «хлусня!» да «дакажыце!» пакідае яшчэ больш сумневаў у шчырасці кіраўніка дзяржавы. Бо ёсць вялікая розніца паміж гэтымі дзвюма пазіцыямі. Хлусня – гэта выключная няпраўда, тут няма што даказваць. А вось «недаказанае» — мае права на жыццё. Бо раптам аднойчы знойдзецца нехта, хто здолее **даказаць**.

Калі прайсціся далей па словах А.Лукашэнкі, то можна знайсці новыя аргументы. Ён абвінавачвае невядомых асобаў у «шантажы». Але нельга шантажаваць хлуснёй, можна шантажаваць інфармацыяй, напрыклад кампраматам або іншымі сакрэтнымі звесткамі, якія непажадана разгалошваць.

«Афіцэр КДБ» піша пра «чачэнскі след» у знікненні Дзмітрыя Завадскага – і А.Лукашэнка кажа пра тое ж.

Кіраўнік беларускай дзяржавы абяцае хутка знайсці Д.Завадскага. І калі гэта адбудзецца – а мы вельмі на гэта спадзяемся – тады стане ясна, чым ёсць ананімны ліст «афіцэра КДБ». Правакацыя або сапраўднае давядзенне інфармацыі да грамадскасці. ■

# Еўропа – за дэмакратыю ў Беларусі

**Рыгор БУЯН**

21 лістапада дэлегацыя беларускай апазіцыі, у склад якой уваходзілі лідэр БНФ Вінцук Вячорка, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, міжнародны каардынатар Хартыі'97 Андрэй Саннікаў ды намеснік старшыні Народнай Грамады Аляксей Кароль, паінфармавала журналістаў пра вынікі паездкі па еўрапейскіх сталіцах.

За 8 дзён дэлегацыя наведала Брусель, Парыж, Лондан, Берлін, Страсбург, дзе правяла шэраг сустрэчаў з уплывовымі палітыкамі. Падчас сустрэчаў размова ішла «пра перспектывы дэмакратызацыі Беларусі ў 2001 годзе, пра сітуацыю, якая можа скласціся вакол прэзідэнцкіх выбараў».

Беларускую дэлегацыю прымалі на высокім дзяржаўным і міжнародным узроўні ва ўрадах і парламентах Вялікабрытаніі, Германіі, Францыі, у кіраўніцтве Еўрасаюза і Еўрапарламента. У Бруселі з лідэрамі дэмакратычных сілаў Беларусі сустрэўся Вярхоўны прадстаўнік ЕС па знешняй палітыцы і бяспецы, былы генеральны сакратар NATO Хаўер Салана і старшыня Еўрапейскай камісіі па міжнароднай палітыцы Крыс Патэн. Палітыкі сустрэліся з «тройкай» Еўрапарламента, дакладчыкам Савета Еўропы па Беларусі Вольфгангам Бэрэндтам.

Нагадаем, што сустрэчаў такога ўзроўню ў афіцыйных беларускіх уладаў не было ўжо некалькі гадоў. Прымаючыя краіны запэўнілі беларускую дэлегацыю ў падтрымцы развіцця дэмакратыі ў нашай краіне. Была выказаная цвёрдая гарантыя непрызнання беларускага рэжыму пасля «парламенцкіх выбараў» 15 кастрычніка.

Еўрапейцы будуць выкарыстоўваць усе даступныя ім метады для таго, каб прымусіць цяперашні рэжым да правядзення ў наступным годзе свабодных, дэмакратычных і справядлівых прэзідэнцкіх выбараў.

Андрэй Саннікаў палічыў «добрай прыкметай» удзел дэлегацыі Вярхоўнага Савета 13-га склікання на сесіі Парламенцкай асамблеі NATO. ■

**ФОТАФАКТ**




Вязуць таннае віно для народа

# Столичный чиновник попался на взятке

**Наталья РАДИНА**

**На днях в следственном изоляторе КГБ оказался высокопоставленный чиновник Мингорисполкома. Ему инкриминируется получение взятки в 3.000 долларов.**

Управление КГБ по Минску и Минской области отказалось назвать имя и должность задержанного.

НАША СВАБОДА выяснила, что УКГБ был задержан начальник отдела архитектуры и согласования проектов комитета по архитектуре и градостроительству Мингорисполкома Александр Баженов. Его коллеги сообщают по телефону, что «Александр Евгеньевич болеет». Внезапно заболел и начальник задержанного – глава комитета по архитектуре и градостроительству Мингорисполкома Александр Чадович. Его первый заместитель Виктор Никитин не стал опровергать факт задержания Александра Баженова, но отказался его прокомментировать.

По нашей информации, *Александр Баженов получил взятку от некого коммерсанта, пожелавшего без лишней волокиты установить ларек на Комаровском рынке. Обвиняемый во взяточничестве чиновник не отрицает получение «вознаграждения», но утверждает, что сжег «подаренные» ему 3.000 долларов.*

Решения о размещении торговых точек на Комаровском рынке не входит в компетенцию начальника отдела архитектуры и согласования проектов. Глава администрации Советского района, где находится Комаровский рынок, отрицает свое участие в сделке стоимостью в 3 тысячи долларов.

Александр Баженов возглавляет влиятельный отдел комитета по архитектуре, в ведении которого проектно-сметная документация на все объекты столицы. Без подписи А.Баженова не мог быть *реализован ни один проект*, так как он оценивал архитектурно-планировочные и художественно-стилистические особенности проектируемых зданий, их инженерное обеспечение и т.п.

Александр Баженов проживает с семьей в двухэтажном коттедже в деревне Дроздовка Минского района. Рядом с коттеджем строится особняк.

Против Баженова возбуждено уголовное дело по ст.169 УК РБ – получение должностным лицом взятки в крупном размере, которое предусматривает лишение свободы на срок от 5 до 15 лет с конфискацией имущества. ■

# «Момант ісціны»: дзве гадзіны пасрэднага кіно

**Кірэй МАНУЙЛА**

**Пазаўчора ў Мінску адкрыўся VII кінафестываль краінаў СНД і Балтыі «Лістапад». Прычым упершыню прэм'ерай – доўгачаканай абяцанкай міністэрства культуры, фільмам «У жніўні 44-га...» («Момант ісціны») рэжысёра Міхаіла Пташука.**

Дагэтуль даты публічнага прэм'ернага паказу гэтай хранічна скандальнай беларуска-расійскай стужкі перадвызначаліся ажно тройчы: на сёлетніх Канах, 9 траўня і 3 ліпеня. Але паказ заўсёды зрываўся. З чацвёртай спробы паказаць кінаблокбасцер, увабраўшы ў сябе болей двух гадоў здымак і некалькі мільёнаў долараў, усё ж удалося. Пры гэтым дарабляўся ён у аўральным тэмпе і быў прывезены з Масквы літаральна пад самае адкрыццё фестывалю. Фільм дагэтуль не гатовы ў тым выглядзе, як планавалася: на гукавай сістэме «долбі-стэрэа» ён будзе прадэманстраваны толькі ў лютым 2001 года.

Паглядзець суперпраект, замоўлены М.Пташуку праз міністэрства культуры дзеля заваёвы ні больш ні менш «Оскара» або прыза Канскага кінафестывалю самім А.Лукашэнкам, сабралася поўная зала кінатэатра «Кастрычнік». А восьаўтар літаратурнага сцэнарыя да фільма Уладзімір Багамолаў, запрошаны на фестываль у якасці ганаровага госця, на прэм'еру так і не з'явіўся. Канфлікт, звязаны з незадаволенасцю пісьменніка кінаінтэрпрэтацыяй ягонага рамана рэжысёрам, улагодзіць не змаглі. У.Багамолаў не змяніў прынятага год таму рашэння прыбраць з цітраў фільма сваё імя.

Што да самога фільма, то атрымаўся ён відочна пасрэдным. 120 хвілінаў ваеннага кіно на шпіёнскую тэму (СМЕРШаўцы ловяць рэзідэнта нямецкай выведкі) – і не больш таго. Нягледзячы на багатую наяўнасць зорковых акцёраў, такіх, як расеец Яўген Міронаў і полька Беята Тышкевіч, і досыць прыстойную аператарскую работу. А калі ўлічыць, што фільм абяцалі як узор нацыянальнага кіно, і тое, колькі на гэта было патрачана грошай, то гэта правал.

Напрыклад, нацыянальнага ў гэтым фільме хіба што некалькі згадак назваў беларускіх гарадоў ды дзесятак «трасянкавых» фразаў. Між тым, намеснік міністра культуры па кінематографе Юрый Цвяткоў кажа, што тут «падымаюцца праблемы патрыятызму» і адкрываецца «новы накірунак у беларускім кіно». ■

# Гродзенцы за адстаўку Статкевіча

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

У Гродне на абласной канферэнцыі Народнай Грамады было вырашана патрабаваць склікаць пазачарговы з'езд партыі і адправіць у адстаўку кіраўніка БСДП Мікалая Статкевіча.

М.Статкевіч, які прысутнічаў на канферэнцыі разам з У.Нісцюком, высветліў, аднак, што не ўсе ўдзельнікі канферэнцыі мелі дакументы аб іх вылучэнні дэлегатамі. Таму канферэнцыю давялося назваць сходам прадстаўнікоў раённых арганізацыяў Гродзенскай вобласці. За патрабаванне адстаўкі Статкевіча прагаласавалі 12 чалавек, устрымаўся – 1. ■

# Пасля бітвы за ўраджай – страты

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

33 калгасы Гродзенскай вобласці на сённяшні дзень – стратныя. Астатнія маюць даўгоў у сярэднім па 120 мільёнаў рублёў на кожнага. Толькі за паліва, выкарыстанае ў «бітве за ўраджай», гаспадаркі не заплацілі больш за 1 мільярд рублёў.

Сярэдні заробак у калгасах найлепшай па сельскагаспадарчых паказчыках вобласці – усяго 32 тысячы рублёў. Прычым, як прызнаюць самі ўлады, гэта – з улікам заробкаў высокааплатных камбайнераў, галоўных спецыялістаў і старшыняў гаспадарак. Звычайныя калгаснікі атрымліваюць значна менш гэтай сумы, прычым вельмі нерэгулярна. Напачатку месяца амаль 20 тысяч калгаснікаў не атрымалі свае заробкі, гэта — болей за 17% ад усіх працаўнікоў сельскай гаспадаркі вобласці. Запазычанасць па заробках склала 512 мільёнаў рублёў, за адзін месяц яна павялічылася болей як у 100 разоў. ■

# Поступать в два вуза? – Реально

**Наталья РАДИНА**

**Министерство образования выступило с инициативой разрешить белорусским абитуриентам поступать в несколько вузов одновременно.**

Это решение было принято на прошедшей 17 ноября коллегии министерства образования. Министр образования Василий Стражев, наконец, признал, что Беларусь сегодня единственная страна, где право на поступление в несколько вузов одновременно ограничено.

Настоящая политика вступительных экзаменов, когда дубликаты аттестатов зрелости в приемных комиссиях не признаются действительными, возмутила главу государственной комиссии по контролю за ходом вступительных экзаменов академика Игоря Волотовского. По его словам, поступать сразу в два вуза могут только самые одаренные ребята, и почему бы не дать юным гениям возможность использовать свои способности на полную мощность?

А для того, чтобы в число студентов попадали наиболее способные абитуриенты, Василий Стражев предложил предоставить вузам свободу выбора системы своих приемных экзаменов. ■

# Пачынаюцца маразы

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Шмат хто з беларусаў прызвычаіўся да цёплага і амаль безападкавага для лістапада надвор'я, больш улаcard для краінаў Заходняй Еўропы, чым для Беларусі. Аднак цяпло скончылася, і не сёння-заўтра пачынаецца рэзкае пахаладанне.

Сіноптыкі прадказваюць, што ўжо ў гэтыя дні тэмпература па начах будзе апускацца да –10°С, крыху цяплей будзе толькі ў Мінску. Удзень тэмпература паветра будзе ненашмат вышэйшай. ■

# Без паслугаў тэлефаністкі

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

З 1 снежня 2000 года для тэлефонных абанентаў Беларусі будзе адкрыты аўтаматычны набор усіх краінаў свету. План пераключэння абанентаў Беларусі на аўтаматычны набор краінаў далёкага замежжа складаўся з трох этапаў. У канцы 1999 года да традыцыйна набіраемых з дапамогай аўтаматыкі Балгарыі, Чэхіі, Вялікабрытаніі, Германіі, Польшчы, Францыі і яшчэ 15 дзяржаваў дабавіліся 122 краіны. У сакавіку 2000 года быў адкрыты свабодны доступ да абанентаў яшчэ 26 дзяржаваў (сярод іх – Аргенціна, Румынія, Японія, ПАР). 1 снежня 2000 года гэты спіс дапоўняць Егіпет, Грэцыя, ААЭ, Індыя, Турцыя, Кітай і шэраг іншых.

Патэлефанаваць за мяжу можна з любых тэлефонаў, акрамя тэлефонаў так званай 3-й катэгорыі (забарона зыходзячай міжгародняй і міжнароднай сувязі), а таксама тэлефонаў гасцініцаў, інтэрнатаў, дамоў адпачынку.

Для званка ў іншую краіну (у тым ліку ва ўсе краіны блізкага замежжа) трэба набраць: 8 (код выхаду на аўтаматычную сувязь) — гудок — 10 (код выхаду на міжнародную сувязь) — код краіны — код населенага пункта — нумар тэлефона.

БелаПАН

# «Нейра Дзюбель» выпусціў «The best»

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Новы альбом «Народное достояние» выпусціў мінскі гурт «Нейра Дзюбель». У ёй, акрамя старых і ўжо стаўшых класікай хітоў, ёсць і крыху новых песень. А самы галоўны сюрпрыз, што гэтыя песні – на беларускай мове. Гэта ўпершыню ў гісторыі «дзюбеляў». Запісанае «Народное достояние» па замове расійскай музычна-пракатнай фірмы і распаўсюджвацца будзе ў тым ліку і на тэрыторыі суседняй краіны.

Прэзентацыя альбома, якую праводзіць прадзюсерскі цэнтр «Малы тэатр» у выглядзе двухгадзіннага канцэрта, адбудзецца 30 лістапада ў канцэртнай зале «Мінск» а 19-й гадзіне. ■

## Будуць закрываць газеты?

**Наталля КУЛАГІНА**

Беларускія ўлады працягваюць уціск рэгіянальных недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі: «Дефакто» (Магілёў), «Новая газета Сморгони» (Гродзенская вобласць).

Зараз на мяжы закрыцця знаходзіцца яшчэ адно папулярнае ў сваім рэгіёне недзяржаўнае выданне — гродзенская газета «Пагоня», якая атрымала 21 лістапада папярэджанне ад Дзяржаўнага камітэта па друку Беларусі. Гэтае папярэджанне — ужо чацвёртае сёлета, а ў адпаведнасці з беларускім Законам аб друку, выданне, якое мае больш за два аднолькавыя папярэджанні ў год, можа быць закрыта. Апошняе па ліку папярэджанне вынесеная ў сувязі з публікацыяй у «Пагоні» 26 кастрычніка заявы Каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва», які аб'ядноўвае апазіцыйныя палітычныя сілы рэгіёна, але не зарэгістраваны ў аблвыканкаме.

Галоўны рэдактар «Пагоні» Мікола Маркевіч напрамую звязвае дзеянні Дзяржкамдруку з маючымі адбыцца ў 2001 годзе прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі. ■

БелаПАН

## Расійская правакацыя

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Мы звязаліся з галоўным прадстаўніцтвам NATO ў Брусэлі, і афіцыйны прадстаўнік Паўночна-Атлантычнага Альянса, які пажадаў застацца невядомым, паведаміў нам, што Джэмі Шы ніколі не казаў таго, што было надрукаванае ў «Коммерсанте». Ён паўтарыў сказы пра «поўную сфабрыкаванасць» і «прыдуманую гісторыю», але адмовіў нам у персанальнай размове з Дж.Шы.



Джэмі Шы

Для захавання аб'ектыўнасці мы таксама звярнуліся да другога боку канфлікта – непасрэдна ў «Коммерсантъ». Начальнік аддзела міжнароднай палітыкі выдання Азер Мурсаліеў заявіў нам, што «давярае» сваёму карэспандэнту і «калі стаіць пытанне, каму давяраць – Джэмі Шы або Уладзіміру Кара-Мурзе, то я даваряю свайму карэспандэнту». Тым не менш, ён не змог адказаць, ці існуе дыктафонны запіс выступлення намесніка генеральнага сакратара NATO.

Падаецца, што расіяне пачалі імпартаваць у Беларусь «чорныя» палітычныя тэхналогіі. Інфармацыя са спасылкай на салідную крыніцу ў краінах Захаду, з аднаго боку, «падказвае» А.Лукашэнку, што ён ужо не зусім пажаданы і для Масквы. З другога боку, гэты артыкул можа дазволіць беларускім уладам агулам абвінавачваць апазіцыю ў атрыманні грошай з-за мяжы.

Не трэба забывацца на тое, што «Коммерсантъ» — выданне, якое належыць Барысу Беразоўскаму. Расійскі алігарх мае даволі сур'ёзныя інтарэсы ў Беларусі. І гэтая публікацыя можа быць часткай паўнай гульні, якая пачынаецца на карысць Б.Беразоўскага. ■

## Следчы патрабуе 20 мільёнаў

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**У Маскоўскім раённым судзе Мінска пачаліся слуханні грамадзянскай справы па зыску Анатоля Смаленцава, намесніка кіраўніка следчага камітэта пры міністэрстве ўнутраных спраў. Анатоль Смаленцаў абвінавачвае адваката Веру Страмкоўскую, газету НАВІНЫ і яе журналіста Алега Груздзіловіча ў распаўсюджванні адносна яго кампраметуючых звестак і патрабуе публічных выбачэнняў, абвяржэння гэтых звестак ды кампенсацыі за маральныя страты памерам 20 мільёнаў рублёў.**



Фота Ул. ШЛАПАКА

Васіль Старавойтаў і яго адвакат Вера Страмкоўская

Якія ж звесткі, на думку Анатоля Смаленцава, ганьбяць ягоны гонар і годнасць? Яшчэ ў 1999 годзе ў адным з красавіцкіх нумароў газета НАВІНЫ распавяла пра хуткае завяршэнне працэсу над былым старшынёй АО «Рассвет» Васілём Старавойтавым. У ліку іншых падзеяў згадвалася і тое, што на заключнай стадыі працэсу супраць адваката Веры Страмкоўскай, якая абараняла В.Старавойтава, была ўзбуджаная крымінальная справа па падазрэнні ў паклёпе на следчага Анатоля Смаленцава. На адным з судовых паседжанняў Вера Страмкоўская прасіла праверыць, як захоўваецца былая маёмасць яе кліента. У прыватнасці, малдаўскі каньяк «Белы Аіст», 40 бутэлек якога былі канфіскаваныя следчымі з дому былога старшыні «Рассвета». Паводле дадзеных, якія сталі вядомы Страмкоўскай, падобным каньяком частаваліся следчыя на дзень нараджэння А.Смаленцава. Газета НАВІНЫ распавяла пра гэты запыт у артыкуле «Дзе каньяк Старавойтава?», а следчы ўбачыў у гэтым распаўсюджванне «паклёпу» на сваю асобу.

На адрас адваката Веры Страмкоўскай ён выстаўляе яшчэ больш сур'ёзныя абвінавачванні. На ягоную думку, свой запыт наконт былой маёмасці В.Старавойтава В.Страмкоўская зрабіла ў «нетактычнай ды зняважлівай форме», сыходзячы з «нізкіх матываў», сярод якіх ёсць і «жаданне скампраметаваць» асобіста яго, Анатоля Смаленцава, як кіраўніка следчай групы. У выніку «я быў адхілены ад пасады выконваючага абавязкі начальніка следчага камітэта пры МУС Рэспублікі Беларусь», – сцвярджае А.Смаленцаў, ды яшчэ дадае, што пасля гэтага месяц лячыўся ў шпіталі.

Чытачу, магчыма, будзе цікава даведацца, а чым жа скончылася тая першая спроба абвінаваціць адваката Веру Страмкоўскую ў паклёпе, ініцыяваная, дарэчы, таксама Анатолем Смаленцавым. Па нашых дадзеных, бабруйскія пракуроры займаліся праверкай амаль дзевяць месяцаў, але «нарадзіць» так нічога і не ўдалося. Справу закрылі з прычыны адсутнасці складу злачынства. Анатоль Смаленцаў, праўда, з гэтым не пагадзіўся і абскардзіў рашэнне пракуратуры ў Магілёўскім абласным судзе, але і там ранейшае рашэнне прадубліравалі.

А яшчэ раней сваю кропку ў гісторыі пра каньяк Старавойтава паставіў Кіраўскі раённы суд. Там у рэшце рэшт былі агалошаныя дадзеныя пра лёс 40 бутэлек каньяку «Белы Аіст» і нават прадэманстраваны гэты каньяк суддзям. Інцыдэнт, здавалася, быў вычарпаны. Следчы даказаў, што падазрэнні ў ягоны бок дарэмныя, але і ў дзеяннях адваката злачынства не знойдзенае. Яна ўсё рабіла ў межах сваіх паўнамоцтваў, вырашыў суд.

Але, як бачым, намеснік старшыні следчага камітэта такім завяршэннем гісторыі не задаволены. Не атрымалася з крымінальнай справай, ён вырашыў ініцыяваць разбіральніцтва ў выглядзе грамадзянскага працэсу. Не атрымалася з крымінальным артыкулам, паспрабуем разарыць спагнаннямі астранамічных сум?

Падаецца, што абвінавачванні следчага Анатоля Смаленцава супярэчаць закону аб друку, які гарантуе права на распаўсюджванне інфармацыі, што цікавіць грамадства. Што ж тычыцца газеты НАВІНЫ, то такога выдання ўжо год як не існуе. НАВІНЫ былі закрытыя беларускімі ўладамі, і гэта варта ведаць. А прад'яўляць зыск неіснуючай газеце па меншай меры не зусім прафесійна.

Чарговае паседжанне па гэтай справе адбудзецца 14 снежня. ■

## Президентские выборы. Румынский вариант-2

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

**При информационной поддержке посольства Румынии в Беларуси**

Так уж сложилось, что различные периоды истории, в частности стран Европы, принято характеризовать событиями, происшедшими в конкретных странах. К примеру, еще не так давно ситуацию в России сравнивали с Веймарской республикой, которая породила национал-социалистический режим в Германии. Общепризнанными стали понятия «пражская весна», «бархатная революция» и так называемый «румынский вариант» — кровопролитная смена власти и скоропалительный смертный приговор диктатору. А недавние события в Белграде, приведшие к смещению Слободана Милошевича, нарекли «феноменом Коштуницы». Как известно, фигура нынешнего президента Югославии Воислава Коштуницы появилась для многих неожиданно и буквально накануне этих событий. Вполне вероятно, что опыт становления демократии в посткоммунистических странах дополнится еще какими-либо вариантами смены власти.

В предстоящее воскресенье в Румынии состоятся президентские выборы. Они будут иметь особенности, которые позволяют говорить о «румынском варианте-2». Нынешний президент Константинеску решил не выставлять свою кандидатуру на пост главы государства, тем самым приняв на себя весь груз ответственности за экономический спад в стране. Он выражается и в росте инфляции (4 процента в текущем году), внешнего долга, истощении резервов Национального банка (2,6 млрд. долларов) и других атрибутов кризисных явлений в экономике.

Как всегда народные массы в посткоммунистических странах причины своих бедствий склонны списывать на либеральные реформы. Как известно, реформаторам практически всегда уготована роль «камикадзе». В общем-то Румыния переживает период, который где-то уже пережили, а где-то еще нет. А в некоторых странах, среди которых оказалась и Беларусь, и вовсе наблюдается откат к тотальному огосударствлению всех сфер жизни ее граждан.

В других странах Европы на волне недовольства электората либералами к власти приходят социал-демократы. В Румынии их лидером является Ион Илиеску. Он уже был до ноября 1996 года президентом страны. В этом качестве он был одним из немногих президентов в Европе, которые посещали за последние лет шесть Минск, да и вообще Беларусь.

По мнению практически всех экспертов, которые освещают предвыборную ситуацию в Румынии, с более чем 40% рейтингом Илиеску обеспечивает себе победу уже в первом туре предстоящих прямых президентских выборов. Можно вспомнить, что в период правления Н.Чаушеску он был далеко не рядовым членом коммунистической партии. Тем не менее, результаты социологических опросов показывают, что румынские избиратели готовы вновь ему оказать доверие. Правда, согласно Конституции Румынии, власть президента не абсолютна. Она ограничена парламентом. Именно парламентское большинство формирует правительство, которое может быть и коалиционным.

Из остальных 11 кандидатов в президенты, пожалуй, внимания заслуживают два политика, в разные годы возглавлявшие румынские правительства. Это лидер национальной либеральной партии Теодор Столожан (15%), который сейчас работает в Международном валютном фонде, и демократической партии Петру Роман (7-10%) — нынешний министр иностранных дел.

По мнению наблюдателей, даже если первый тур выборов не определит победителя, то последующий тур никоим образом не станет фактором, способным дестабилизировать ситуацию в стране или негативно повлиять на ее международное положение. При всем накале предвыборной борьбы все политики и СМИ подчеркивают, что ротация кадров во власти путем свободных выборов, основанных на общепризнанных стандартах, и есть выражение подлинной демократии.

Конечно, с приходом к власти в Румынии социал-демократов, надо полагать, социальные аспекты экономической политики будут усилены. Но о каком-то пересмотре государственной политики в сторону удушения бизнеса и речи не идет. Что касается внешней политики, то у Румынии приоритеты остаются неизменными — членство в NATO и Европейском Союзе. Стоит напомнить, что свои очередные выборы Румыния встречает и в качестве председателя ОБСЕ. А парламентскую ассамблею этой международной организации возглавляет бывший министр иностранных дел Румынии Адриан Северин, который хорошо известен в Беларуси. В своих многочисленных встречах с белорусскими политиками разного толка и уровня он постоянно напоминает о том, что демократия — это не только процедура выборов. Это образ жизни. А суверенитет страны предполагает много прав и ответственность. В том числе и международную. А. Северин также постоянно говорит о трагичном и нежелательном опыте «румынского варианта», активным участником которого он был сам. ■

## НАРОДНАЕ МЕРКАВАННЕ

**1. Ці верыце вы абяцанням Аляксандра Лукашэнкі ўзняць пенсію да ўзроўню эквівалентнага 60 доларам ЗША пачынаючы з студзеня 2001 года?**

**2. Адкуль ён, па вашым меркаванні возьме грошы на гэта?**

**ІВАН ГАРДЗЕЕВІЧ, пенсіянер:**

— Ну, вось асабіста я не чуў гэтых словаў... Ну, я прызвычаіўся яму верыць заўсёды, і цяпер думаю, што калі ён кажа, значыць так і будзе.

— Ну, не ведаю, дзе возьме, але возьме.

**АЛЕГ, супрацоўнік будаўнічай фірмы:**

— Не, не веру. Гэта ўсё толькі словы...

— Каб так падняць пенсію, трэба значна падымаць кошты на ўсё.

**НІНА ІВАНАЎНА, пенсіянерка:**

— Не, не веру. Ды і ўсе пенсіянеры, вы гляньце, не вераць ужо ні ў што. Нават калі крыху і падымуць пенсію, гэта ж як кошты ўзлятаць!

— Не ведаю. Каб грошы былі ў дзяржаве, меней гуляць трэба святкаваннямі ўсялякімі. Трыццаць тры тысячы ў мяне пенсія, гэта ж проста непавага да людзей. Яны нас што, быдлам там лічаць улады гэтыя.

**МАРЫНА УЛАДЗІМІРАЎНА, працуе ў галіне оптыкі:**

— Я такога не чула, але... не, я не веру. Гэта было б добра, каб так здарылася, але я не веру.

— Ды не ведаю, дзе тут што можна ўзяць, калі ўсе рэсурсы даўно таго.

**ВАСІЛЬ ПЯТРОВІЧ, электраманцёр:**

— Ну, абяцаць то можна, але толку з тых абяцанняў ніякага.

— Можа толькі калі ў яго асабіста якія накапленні ёсць, але ж у краіне такіх грошай напэўна няма.

**ВАДЗІМ БАРЫСАВІЧ, кіроўца:**

— Не, наўрад ці. Ён і так шмат абяцае. А абяцанні не выконвае.

— Калі толькі Расія яму дапаможа, калі грошай дадуць. У нас – не ведаю.

Апытвалі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)

# Развітанне з аптымізмам

Міхал ЗАЛЕСКІ

**Каб ведаць, што адбываецца ў эканоміцы, еўрапейскія кіраўнікі ўжо гадоў з паўсотні карыстаюцца паслугамі навукоўцаў, якія спецыялізуюцца ў вывучэнні кан'юнктуры. Спосаб вывучэння абраны надзейны і рацыянальны.**

Кіраўнікі прадпрыемстваў адказваюць на невялікую анкету наконт галоўных паказчыкаў сваёй вытворчасці самым простым чынам: «пабольшыўся», «зменшыўся», «не змяніўся». Потым вылічваецца адсотак, на каторы колькасць тых, напрыклад, што адказалі «паменшаўся», перавышае тых, што напісалі «пабольшыўся», і атрымліваецца, скажам – «30».

У краінах Еўропы, а таксама ў адпаведных установах Еўрасаюза супастаўляюць потым афіцыйную статыстыку з вынікамі апытанняў, параўноўваюць не толькі першасныя паказчыкі, але і зробленыя паводле іх разлікі гэтак званых адрэагаваных паказчыкаў і прагнозы. Таму іхнае начальства добра ведае з большага, што было, што будзе і чым душа супакоіцца.

З сакавіка 1994 года еўрапейскую практыку прышчапіла да Беларусі група маладых навукоўцаў. Вынікі іхных даследаванняў добра вядомыя калегам з Мюнхена і Парыжа. Паціху прызвычайваецца да новага і нашае начальства сярэдняга ўзроўню. Да правадыроў, мабыць, інфармацыі гэткага кшталту не далятаюць, згараюць у верхніх слаях атмасферы.

Дарма, бо для прамысловасці інтэграваным паказчыкам ёсць г. зв. «індэкс аптымізму». Колькі тыдняў таму прагноз нямецкіх навукоўцаў пра ягонае імавернае змяншэнне спаведаваў паніжэнне курсу дойчмаркі. А на Беларусі, між іншым, прамысловасць цягне за сабой усё жыццё. Дарэчы, наконт аб'ёму вытворчасці ў нас «ціп-топ», а вось каб грошы за тавар атрымаць альбо склады ад яго ачысціць, гэта мара.

Па-ангельску той індэкс завецца *confidence indicator* і разлічваецца як сярэдняя арыфметычная перспектыўнага аб'ёму вытворчасці, плацежаздольнага попыту і запасаў гатовай прадукцыі на складах. То бок, атрымліваецца, што калі большасць апытаных «капітанаў вытворчасці» лічыць, напрыклад, што працаваць яны будуць на склад, а спажыўцы плаціць не будуць, то індэкс паніжаецца. І наадварот.




Беларускі індэкс добра супадае з рэальнасцю, а кароткатэрміновы прагноз паводле яго дае памылку не болей за 5%. На малюнку таўсцейшая лінія — гэта вынікі штоквартальных апытанняў прадстаўнічай групы беларускіх дырэктараў прамысловых прадпрыемстваў, а тонкая — спрошчаны прагноз на адзін квартал. Добра відаць, як пасля жніўня 1998 года пайшлі нашыя справы долу. Несправыльная кан'юнктура.

Вось і вурчаць стаўпы грамадства, дырэктарскі корпус, апірышча прэзідэнцкай улады і ўся дзяржавы. Крыху не так вурчаць як раней, без аптымізму... ■

# Юрыдычных асобаў душыць будуць, але ўжо не насмерць

Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН

Змяненне парадку рэгістрацыі юрыдычных асобаў будзе садзейнічаць «істотнаму павелічэнню» суб'ектаў гаспадарання ў Беларусі. Такое меркаванне выказаў першы намеснік міністра прадпрымальніцтва і інвестыцыяў (МПІ) Аляксандр Швец 22 лістапада ў Мінску на прэс-канферэнцыі, прысвечанай унясенню паправак у дэкрэт № 11 ад 16 сакавіка 1999 года «Аб упарадкаванні дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (спыненні дзейнасці) суб'ектаў гаспадарання».

Галоўным прагрэсіўным крокам Швец назваў значнае зніжэнне мінімальных памераў статутных фондаў (у 1,3–7,3 раза), неабходных для рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання. Праўда, паводле прызнання намесніка міністра, МПІ «прапаноўвала яшчэ больш мяккі варыянт». У заслугу свайму міністэрству Швец паставіў змяншэнне мінімальнага памеру статутнага фонду (з 11.610 да 1.600 еўра) для «самай папулярнай формы арганізацыі прадпрыемства — таварыства з абмежаванай адказнасцю». Па словах намесніка міністра, ранейшыя статутныя фонды «не адпавядалі рэаліям беларускай рэчаіснасці». У немалой ступені з-за гэтага на момант прыняцця дэкрэта № 22 (16 лістапада 2000 года), які ўносіць змяненні ў дэкрэт № 11, перарэгістрацыю прайшлі толькі 30 працэнтаў суб'ектаў гаспадарання.

Як заявіў Швец, у новай рэдакцыі «Палажэння аб дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (спыненні дзейнасці) суб'ектаў гаспадарання» зніжаная таксама субсідыярная адказнасць заснавальнікаў.

«Тое, за што змагалася міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў з першага дня пасля падпісання дэкрэта № 11, знайшло сваё адлюстраванне ў дэкрэце № 22. У свой час міністэрства выступала катэгарычна супраць 11-га дэкрэта, але наша меркаванне не было ўлічанае», — сказаў Швец.

Як заявіў Швец, пасля вырашэння пытання са статутнымі фондамі МПІ павінна заняцца вырашэннем іншых не меней важных праблемаў прадпрымальніцтва. Сярод іх — «неабгрунтавана высокія стаўкі арэнднай платы, якія трэба змяншаць у разы»; падаткаабкладанне індывідуальных прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рынках, выставах і кірмашах (увядзенне адзінага падатку замест чатырох існуючых); ліцэнзаванне прадпрымальніцкай дзейнасці. Па словах намесніка міністра, ліцэнзаванне ў Беларусі «набыло паграбальныя памеры». «Лягчэй назваць віды дзейнасці, якія яшчэ не ліцэнзуюцца. Між тым у свеце ліцэнзіі выдаюцца толькі на тыя віды дзейнасці, якія звязаныя з нацыянальнай інтарэсамі, дзяржаўнай бяспекай, экалогіяй. Неабходна скараціць як мінімум удвая колькасць ліцэнзуемых відаў дзейнасці і стварыць адзіны орган дзяржкіравання, які займаўся б ліцэнзаваннем, шляхам перадачы туды ліцэнзійных аддзелаў розных ведамстваў», — мяркуе Швец.

Па словах намесніка міністра, развіццё прадпрымальніцтва застаецца дзяржаўным прыярытэтам. МПІ прыступіла да распрацоўкі дзяржаўнай праграмы развіцця прадпрымальніцтва на 2002–2003 гады. У траўні будучага года яно будзе прадстаўленае ў Савет міністраў. Праграма прадугледжвае «істотнае павелічэнне расходаў на падтрымку малога прадпрымальніцтва і стварэнне спрыяльнага клімату для развіцця прадпрымальніцтва наогул». ■

# Пяць вёрстаў — не крук

## Беларусь імкнецца патрапіць у Еўрасаюз, але пасля знікнення ў нетрах саюза з Расіяй

Кастусь СКУРАТАЎ

**На мінулым тыдні ў Брэсце адбыўся шосты па ліку семінар «Добрасуседства 2000», які, калі лічыць па спісе ўдзельнікаў, выклікаў вялікую зацікаўленасць абодвух бакоў.**

Прынамсі, Рэспубліку Польшча прадстаўлялі звыш сотні прадпрымальнікаў, кіраўнікоў і ўладальнікаў фірмаў, а таксам прадстаўнікоў польскіх уладаў. У ліку апошніх былі дзяржсакратар міністэрства эканомікі Блашчык Бернард, Надзвычайны і паўнамоцны пасол Польшчы ў Беларусі Марыуш Машкевіч, гандлёвы саветнік Станіслаў Пагарыла, а таксама кіраўнікі ўладных структураў Люблінскага ваяводства.



● Шлях Беларусі ў Еўропу

Беларускіх удзельнікаў было нават болей, а афіцыйны бок прадстаўлялі намеснік міністра замежных справаў Аляксандр Герасіменка, пасол Беларусі ў Польшчы Мікалай Крэчка, прэзідэнт беларускай гандлёва-прамысловай палаты Уладзімір Лясун, а таксама кіраўнікі мясцовай брэсцкай вертыкалі.

Адразу адзначым, бакі адкрыта дэманстравалі сваю прыхільнасць да пашырэння не толькі гандлёвых ці эканамічных, але і культурных, спартыўных, увогуле чалавечых кантактаў. Зразумела, таксама, што для гэтага ёсць усе падставы. І сумесная гістарычная спадчына, і найноўшы вопыт, калі спачатку польскія грамадзяне адкрывалі для сябе Беларусь, а затым ужо беларусы ўглядаліся ў новую Польшчу і знаходзілі там вельмі многа прывабнага. Карацей, нашы краіны сталі адна для адной самымі прывабнымі рынкамі для дробнага, як кажуць, чаўночнага гандлю. Што тычыцца астатняга, то на Брэстчыне, прыкладам, нарадзіліся Адам Міцкевіч ды Тадэвуш Касцюшка, тут сёння жывуць каля трыццаці тысячаў палякаў, якія маюць радню за Бугам, дзве тысячы школьнікаў вывучаюць польскую мову.

Па словах намесніка старшыні Брэсцкага аблвыканкама Уладзіміра Сцяпанава, Польшча для вобласці з'яўляецца трэцім па важнасці гандлёвым партнёрам пасля Расіі і Германіі, за 9 месяцаў знешнегандлёвы абарот прадпрыемстваў вобласці з польскімі партнёрамі склаў 31 мільён долараў і павялічыўся ў параўнанні з адпаведным перыядам мінула года ў 1,3 раза, а ўдзельная вага дасягнула амаль 15 працэнтаў ад усяго аб'ёму гандлю з краінамі далёкага, як кажуць, замежжа.

Выступаючы з польскага боку таксама казалі пра перспектывы далейшага развіцця. У прыватнасці, за 10 гадоў рэформаў Польшча на 28 працэнтаў пераўзышла ўзровень 1989 года, што з'яўляецца самым высокім паказчыкам для рэфармуемых эканомікаў, у краіне прыпынена інфляцыя, знешнегандлёвы абарот павялічыўся з 12 да 29 мільярдаў долараў. Ёсць, зразумела, і хібы, сярод якіх высокі ўзровень беспрацоўя, але ж ёсць і патэнцыял.

Пагадзімся з гэтым, але для сябе мы адзначым як важнае тое, што мае сэнсавую нагрузку. Гэта далучэнне Польшчы ў класіфікацыі чыноўнікаў да краінаў далёкага памежжа. Як жа так, вось яна, пад бокам, а, выходзіць, дацягнуцца не вельмі проста? А праз год, калі Польшча ўвядзе для грамадзянаў Беларусі візавы рэжым, гэта зрабіць будзе яшчэ больш складана. Пра гэта гаварылі прадстаўнікі Беларусі. А палякі сцвярджалі, што зроблена ўсё неабходнае, каб атрымаць візу было не больш складана, чым сёння ваўчар.

Дададзім, што мэты памежнага гандлю з Беларуссю не ідуць ні ў якае параўнанне са стратэгічнай мэтай краіны — інтэграцыяй у Еўрапейскі Саюз, для чаго і неабходны візавы рэжым. І што б мы ні казалі з гэтай нагоды, кожны інтэгруецца з кім хоча і як хоча. Таму Польшча ўніфікуе сваё заканадаўства з еўрапейскім, а Беларусь — з расійскім. А паколькі, як заўважыў Мікалай Крэчка, яно больш еўрапейскае за наша, то і мы гэткім чынам палягшаем свае шанцы на выхад у Еўропу.

З гэтай нагоды ўзнікае толькі пытанне наконт усіх гэтых дзівосаў. Чаму нам абавязкова патрэбная Еўропа, але толькі праз Маскву? Нейкая дзіўная гісторыя з геаграфіяй. Нейкім дзіўным чынам адбылося так, што спачатку СССР, потым СНГ у поўным складзе сваіх незалежных дзяржаваў трапіў у выключнае заходняе атачэнне.

Прыкладам, японскія фірмы выраблююць свае аўтамабілі ў Заходняй Еўропе. Таму няма чаго меркаваць аб геаграфічнай прыналежнасці гэтых самаходаў. А вось Форд, які мае філіялы ў Заходняй Еўропе, паспрабаваў наладзіць вытворчасць аўтамашын у Беларусі і з гэтага адзін пшык атрымаўся. Бо эканамічных умоваў для гэтага беларускі ўрад так і не стварыў. Увогуле, калі кажуць аб Еўропе, то прыметнікі «заходняя» і «ўсходняя» ўжываюцца толькі ў геаграфічным сэнсе. А ў гістарычным ці культурным Еўропа паняцце самадастатковае. Таму прыналежнасць да Еўропы ў культурным сэнсе як да цывілізацыі вымяраецца наяўнасцю ў грамадстве асабістых свабодаў і правоў. Еўрапейскасць, у прыватнасці, гэта самакіраванне мясцовых органаў, гэта эканамічныя свабоды, свабода ўласнасці, грамадзянская свабоды і гарантыі правоў чалавека. У гэтым сэнсе Японія і Аўстралія больш еўрапейскія, чым Масква і Пецярбург, не кажучы ўжо пра Мінск ці Магілёў. А Амерыка, калі не звяртаць увагі на гістарычныя своеасаблівасці, нават больш еўрапейская, чым сама Еўропа.

Вось таму куды ні кінеш вокам, кругом нас Еўропа, кругом Захад, за выключэннем Расіі, Лівіі ды Ірака. І калі мы хочам быць з імі, то пры чым тут палякі, якія не хочуць з імі быць. Бо па-еўрапейску моцная дзяржава — тая, якая гарантуе грамадзянам іх правы на самарэалізацыю, а слабая – тая, якая не дае ім разгарнуцца. А кожны жыве там, дзе ён хоча. ■

# Страйк прадпрымальнікаў ахапіў Беларусь

Рыгор БУЯН

23 лістапада цалкам страйкаваў Мінск (рынкі «Дынама», «Ждановічы», «Чыжоўка», ва Уруччы працавалі толькі чатыры прадуктовыя шапікі). Прастойвалі таксама рынкі ўсёй Гродзенскай вобласці і ўсяго Віцебска. Па словах намесніка старшыні Беларускага прафсаюза прадпрымальнікаў Леаніда Каліцені, «чаканні спраўдзіліся на 80-90%». Ёсць асобныя факты «штрэйкбрэхерства», але яны не аказалі на сітуацыю ніякага ўплыву.

Асноўным патрабаваннем «чаўнакоў» па-ранейшаму застаецца адмена пастановы дзяржаўнага мытнага камітэта, паводле якой прыватныя прадпрымальнікі мусяць рабіць «растаможку» тавараў, увезеных у Беларусь з тэрыторыі Расіі. Прадпрымальнікі таксама пратэстуюць супраць канфіскацыі тавараў без рашэння суда, неабгрунтавана высокіх штрафаў, а таксама выступаюць за зніжэнне арэнднай платы за гандлёвыя месцы.

Дробны бізнес выступае катэгарычна супраць падвышэння ставак фіксаванага падатку. Існуючая стаўка, па словах Леаніда Каліцені, — «крайні памер стаўкі, якую яшчэ можна выплачваць». Аднак па ягоных звестках, падрыхтаваны праект дэкрэта А.Лукашэнкі, які прадугледжвае павелічэнне стаўкі ў 1,5 раза.

Прадпрымальнікі вырашылі правесці ў снежні мітынг пратэсту ў Мінску. Рашэнне аб пратэсце ў іншых рэгіёнах Беларусі будзе прынятае пасля страйку, па выніках якога стане вядомы расклад сілаў. А з 1 студзеня 2001 года прадпрымальнікі краіны мяркуюць распачаць бестэрміновы страйк. ■



# Прарок і апякун Айчыны

## 70-я ўгодкі нараджэння Уладзіміра Караткевіча

**У нядзелю, 26 лістапада, Уладзіміру Караткевічу споўнілася б усяго 70 гадоў. Гэта той выпадак, калі «ўсяго» – не клішаванае і не звычайнае слова з нагоды. Бо сярод літаратурна-гістарычных датаў угодкі з дня нараджэння Караткевіча вызначаюцца асаблівымі здумленасцю і настраёвым антуражам. Чаму? Караткевіча любілі, любяць і заўжды будуць любіць.**

Ён адзін з самых прызнаных народам беларускіх літаратараў. Як паэт Караткевіч упадабаўся многім зборнікамі «Мая Іліяда» і «Быў.Ёсць.Буду», як празаік – раманамі-бестселерамі «Дзікае паляванне караля Стаха», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Каласы пад сярпом тваім», «Чорны замак Альшанскі», аповесцю «Сіняя легенда», паданнем «Ладдзя Роспачы», бліскучым эсэ «Зямля пад белымі крыламі», як драматург – п'есамі «Званы Віцебска» і «Маці ўраганаў». Па шэрагу ягоных твораў ставіліся оперы і здымаліся мастацкія фільмы.

Уладзімір Караткевіч не проста класік – ён ужо ганаровая неад'емная легенда нашай літаратуры. Яго постаць абкружаная арэолам шчырай пашаны, вакол яго асобы процьма знакавых і забаўных гісторыяў, а разам показак і міфаў.

Як Уладзімір Караткевіч станавіўся тым, кім ёсць для нас сёння, выпадкі з асабістых стасункаў прыгадваюць для чытачоў НАШАЙ СВАБОДЫ пісьменнікі, якія ведалі Караткевіча, мелі сумесную працу, таварышавалі з ім.

**Карлас Шэрман, пісьменнік, віцэ-прэзідэнт беларускага ПЭН-цэнтра:**

— У 1983 годзе я рыхтаваў беларускі выпуск «Савецкай літаратуры» на іспанскай мове і звярнуўся да Караткевіча з просьбай напісаць пра Купалу, пра тое, што ён значыць для нас. Але такім чынам, каб гэта зразумелі замежнікі. Праз нейкі час Валодзя пазваніў мне, што ўсё гатова. Я прыехаў да яго, ён пачаў чытаць. Там быў такі момант: уявіце сабе, што падрос спадар Шэкспір, а ў гэты час забаранілі англійскую мову. Наогул, на маю думку, гэта найлепшае эсэ, напісанае пра Купалу.

Потым, памятаецца, неяк Караткевіч тэлефануе і кажа: «Карлас, трэба зрабіць дужа важную справу». Я кажу, давай прыеду, пагутарым, а ён адказвае, што не, пазней, бо сабраныя торбы, выпраўляюся ў падарожжа па рэках Беларусі. Гэта сталася ягонай апошняй вандроўкай. Я так і не даведаўся, што за добрую справу мы павінны былі з ім зрабіць.

Светласць, адкрытасць, няўрымслівасць Караткевіча – гэта феномен надзвычайны. Валодзя мне згадваецца ў першую чаргу вясёлым, лёгкім на жарт. Ён выдатна маляваў, прычым часта на рукапісах, спяваў — і оперныя ўрыўкі (меў добра пастаўлены голас), і беларускія песні. Быў душой любой зборні, любой кампаніі. Хоць то былі не лепшыя часы для Беларусі, і Караткевічу часам выпадала выступаць не столькі пісьменнікам, колькі змагаром. Ён лёгка ўступаў у канфлікты, адстойваючы праўду гісторыі Беларусі, ейныя помнікі. Спрачаўся і ў Акадэміі навук, і ва ўладных калідорах. Прычым не толькі ў інтэлектуальных супрацьстаяннях. Аднойчы, баронячы ад абразы імя Міхася Стральцова, ён улез у бойку, у выніку чаго паламаў нават руку і хадзіў у гіпсе.

ПЭН-клуб рыхтуе Сусветную бібліятэку літаратуры, дзе будуць 2 тамы беларускай літаратуры, як маркуецца, яны будуць перакладзеныя на розныя мовы свету. І там абавязкова зойме пачэснае месца Уладзімір Караткевіч.



Уладзімір Караткевіч. Адзін з апошніх здымкаў. 1984. Фота Яўгена Коктыша. Публікуецца ўпершыню.

**Валянцін Тарас, пісьменнік:**

— Я не залічваю сябе да бліжэйшых сяброў Караткевіча, якім быў, напрыклад, Рыгор Барадулін, і не хачу, як гэта робяць некаторыя, падмазвацца. Мы былі проста добрыя прыяцелі.

Згадваю, як я, Караткевіч і перакладчык кнігі «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» на рускую мову паэт Навум Кіслік сядзелі і вычытвалі карэктуру рамана для публікацыі ў «Нёмане». Сядзелі доўга, і тут Валодзя кажа, што, можа, давайце зладзім пляшку. Выпала бегчы мне. Валодзя паглядзеў на гадзіннік: «Хуценька, каб да 7-мі паспеў, 20 хвілінаў да закрыцця» (тады пасля 19.00 алкаголь не прадавалі). Прыходжу, а Караткевіч сядзіць трошкі задуменны і загадкавы. Потым кажа: «З таго, што ты зараз збегаў, зраблю літаратурнае хуліганства». Напрыканцы рамана ў эпізодзе, калі за горадам збіраюцца апосталы і пасылаюць Іуду ў вёску прынесці ежы і самагонкі, Караткевіч уклаў у вусны Хрыста словы: «Дык спяшайся, бо нежэзабаве сем». Так яно і пайшло тады ў друк.

Гэта забаўная дэталька перадае своеасаблівае Валодзева стаўленне да літаратуры. Ёсць пісьменнікі, што вельмі сур'ёзна да сябе ставяцца, ходзяць з пыхай жывых помнікаў, думаюць пра будучы музей. Караткевіч быў пазбаўлены гэтага. Яму хапала самаіроніі і жыццялюбства, ён разумеў, што жыццё, адносіны паміж людзьмі, сяброўства, тая ж супольная вячэра – гэта вышэй за літаратуру. Таму што літаратуры без гэтага не існуе. Ён ніколі не гаварыў пра гэта, проста жыў і пісаў, але тое адчувалася. Ці, напрыклад, такое. Калі Валодзя жыў на Карла Маркса ( у доме без ліфта) і была жывая ягоная маці, ён паставіў на кожным паверсе крэслы. Каб мама, спускаючыся ці падымаючыся, магла, калі што, прысесці і хвіліначку пасядзець. Гэтыя крэслы ламалі, кралі, а ён усё адно іх рамантаваў альбо ставіў новыя. Прычым ніякай афішы з гэтага не рабіў.

Хацелася б, каб Караткевіча чыталі: не толькі «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Каласы пад сярпом тваім», а ўсяго. Добра б чытаць яго ад самага пачатку. Ад першых вершаў, ад рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі». (Дарэчы, адной з прычынаў, чаму быў рассыпаны набор гэтай кнігі, было тое, што, маўляў, як гэта «леаніды не вернуцца», калі Леанід Ілыч сядзіць вось над усім зямным шарам).

Караткевіч – адзін з тых, хто ў найвышэйшай ступені выхоўвае той беларускі менталітэт, які ён павінен быць.

**Рыгор Барадулін, найбліжэйшы сябар Караткевіча :**

— Апошнім часам пачынаю задумвацца, а ці зямнога паходжання вялікі сябар мой Уладзімір, Валадар, Волат? Бо не можа ў галаве, хай сабе вытанчанага смяротнага, змясціцца столькі ведаў, а ў сэрцы – гэтулькі любові да зямлі, якая сталася яму роднай, гэтулькі пашаны да мовы, што пераняў ад народа, які балеў яму. Незямным талентам з незямною працаздольнасцю, шчыраваннем надзяліў Звышні Уладзіміра Караткевіча.

А ў штодзённасці геніяльны летуценнік, утрапёны суаўтар мінуўшчыны і будучыні быў зямны і просты: любіў чарку, жарт, лясную дарогу і начоўку ў стозе. Ён цікавіўся ўсім, бачыў усё, радаваўся любой праяве жыцця, бо, цяпер разумею, адчуваў сваё кароткае гасцяванне на зямлі. Таму:

Шурпатую жвірынку
падымаў да зорак.
Падзьмух ветрыку рабіў
ураганам.
Дажджынку ў залеву
ператвараў.

Ён умеў усё, і яго слухаліся незацугляныя думкі. Невыпадкова недзе на пачатку 80-х сказаў было: «Я не пісаў трох рэчаў: песень, дзіцячых вершаў і баек. Трох рэчаў не магу. Усё астатняе ўмею, пачынаючы ад опернага лібрэта і канчаючы віншавальнымі вершамі табе і сястры...» Працаваў паўсюль і шмат. Але праца яго была не рабскай, а болей святарскай, бо Караткевіч сяшчэннадзеяў.

Гучыць мне голас сябра:
А за тым краем,
Як за тым раем,
Горка ўздыхаем і плачам.
Краю наш, раю наш,
Мы цябе не ўбачым...

Вялікі Уладзімір Караткевіч працаваў і жыў, каб хоць нашчадкі, няхай далёкія, пабачылі свой край вольным.

Матэрыял падрыхтаваў Кірыла ПАЗЬНЯК



З сябрамі ў майстэрні Алеся Марачкіна на 90-я ўгодкі з дня нараджэння Максіма Багдановіча. 1982 год. Фота Вячаслава Дубінкі. Публікуецца ўпершыню.



Ранейшы Дом творчасці пісьменнікаў у Каралішчавічах. Стрэлкай паказаны пакой, у якім любіў працаваць У.Караткевіч

